


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

БЕЛАРУСКІЯ ПАВУЧАННІ
Не спяшайся языком, а спяшайся справаю

№ 15 (331) КАСТРЫЧНІК 2022 ГОДА

ЭКАЛОГІЯ

# ДРАСЁНА ЯПОНСКАЯ – ЧАРГОВЫ ІНВАЗІЎНЫ ШКОДНІК ГАРАДОЧЧЫНЫ

**Драсёна (рэйнутрыя) японская здольна расці праз асфальт, падмуркі і каналізацыю. Гэты шкоднік з'явіўся ўжо і ў Гарадку. Знаёмім чытачоў яшчэ з адным інвазіўным шкоднікам, які зараз самы небяспечны ў Вялікабрытаніі. У Гарадку ён ужо расце плантацыяй на Іванаўскіх могілках. Магчыма і ў іншых месцах горада і раёна. Што будзе з чарговым інвазівам, які бурыць асфальт, падмуркі, каналізацыю, як з ім змагацца і г.д.?**



Наша экалагічная ды і агульная культура на невысокім узроўні. Грамадзяне Беларусі ў большасці не разумеюць шкоднасць інвазіўных раслін для прыроды Беларусі і абыякавы да гэтай праблемы. Між тым плошча розных інвазіўных культур усё больш і больш, а негатыўнае ўздзеянне на прыроду Беларусі мацнее з кожным годам.

Чужародныя (інвазійныя) віды раслін аказваюць вялікі ўплыў на прыродныя і антрапагенныя прыродныя супольнасці. У Беларусі складзены спісы заносных відаў раслін і тых, якія дзічэюць каля месцаў вырошчвання. Чорная кніга флоры Беларусі уключае чужародныя шкоднасныя расліны, якіх не адзін дзесятак відаў. З гэтым спісам магчыма азнаёміцца на старонца Цэнтральнага батанічнага сада НАН Беларусі тут: _http://hbc.bas-net.by/hbcinfo/invaslist.php?list=rus._

Зараз распавядаем пра госцю з Японіі — рэйнутрыю японскую. Гэта расліна адносіцца да сямейства драсёнавых (грэчкавых), як і вядомая ўсім нам грэчка, з насення якой вараць грачаную кашу. Гэта шматгадовы, з выгляду цалкам бяскрыўдны травяністы куст са шматлікімі парасткамі, якія дасягаюць трох метраў у вышыню. Яго карані пры гэтым разрастаюцца на плошчы да пяці-сямі метраў. Радзіма расліны - тэрыторыя Японіі, Кітая і Карэі. У Еўропе расліна з'явілася ў другой палове XIX стагоддзя, яго прывёз нямецкі даследчык Японіі, медык і прыродазнаўца Філіп Франц Бальтазар фон Зібальд. З 1854 года вядома аб з'яўленні драсёны японскай у Вялікабрытаніі. Спачатку яго культывавалі, але ў канцы стагоддзя рэйнутрыя «збегла з лабараторыі», пачаўшы распаўсюджвацца ў дзікай прыродзе.

Цяпер драсёна японская прызнана самым інвазіўным відам на тэрыторыі Брытаніі. Зараз рэйнутрыя атакуе брытанскі рынак нерухомасці. Бо ў Вялікабрытаніі здзелкі з нерухомасцю абраслі дадатковымі опцыямі, якія ўключаюць у сябе абследаванне і лячэнне тэрыторыі. Існуюць спробы прадаўцоў і пакупнікоў дамоў і участкаў вызначыць, ці не падманваюць яны адзін аднаго, падсоўваючы нерухомасць, заражаную рэйнутрыяй. Усе гэтыя дзеянні старанна рэгламентаваны і абапіраюцца на заключэнне брытанскага Агенцтва па ахове навакольнага асяроддзя. Гэта заключэнне апісвае рэйнутрыю японскую як «бясспрэчна, самае агрэсіўнае, разбуральнае і інвазіўная расліна ў Вялікабрытаніі». Ёсць меркаванні экспертаў, што гэта можа аказаць істотны ўплыў на продажы жылой нерухомасці. Для пакупнікоў і прадаўцоў таксама падрыхтавалі ролік, які дапамагае зарыентавацца ў праблеме (гл. _https://www.environetuk.com/_).

Вось такая расліна пачала расці цяпер у Гарадку і найперш на Іванаўскіх могілках. Першы арэал рэйнутрыі японскай, калі ісці на могілкі, маецца каля высакавольтнай лініі побач са Сараполацкай вуліцай.

Другі арэал драпежніка каля самых Іванаўскіх могілак — побач з вагончыкам работнікаў аб'екта.

Але найбольшая плантацыя рэйнутрыі японскай каля бетоннай агароджы напрыканцы асноўнай часткі могілак. (рэд. – на фота) Тут рэйнутрыя закрывае саму агароджу, узяўшы яе ў палон.

Таксама яна апляла агароджу і накіроўваецца да асфальта яшчэ на сотню метраў па могілках. Жыццё пакажа праз які час шкоднік тут пачне прабівацца праз асфальт.

Як з ёй змагацца? Напрыклад, для знішчэння рэйнутрыі ў Кургальскім заказніку, што ў Расіі на Далёкім усходзе, расліны выкопваюць на глыбіні не меней аднаго метра (у іншых месцах глыбіня выкопвання можа дасягаць сямі метраў). Грунт прасейваюць праз сетку з дыяметрам вочка не больш аднаго сантыметра і засынаюць зваротна, а сценкі ўмацоўваюцца плоскай цэментава-стружкавай плітой таўшчынёй 8-10 міліметраў для прадухілення пранікнення каранёў на суседнія ўчасткі.

Але ці магчыма такое змаганне ў Гарадку? Дзе яшчэ плантацыі гэтага інвазіва?

Толькі відавочна, што такая расліна павінна быць у цэнтры ўвагі у гарадах. І калі яна вам вядома каля вашага дома, то з ёй варта пачаць змагацца ўжо сёння. Каб заўтра не было позна.

**Лявон Гаравы**

_Ад рэдацыі:_ _Адзін чытач ужо паведаміў пра рэйнутрыю ля вёскі Смалькі._



ЭКАНОМІКА

# СКАРАЧЭННЕ ХУТЧЭЙ ЗА ІНШЫЯ РАЁНЫ

**У Гарадоцкім раёне хутчэй за іншыя раёны Віцебскай вобласці адбываецца скарачэнне насельніцтва, якое занята ў эканоміцы.**

Паводле афіцыйных даных Віцебскага абласнога ўпраўлення статыстыкі ў Гарадоцкім раёне ў 2021 годзе занятае ў эканоміцы насельніцтва склала толькі 7,5 тыс. чалавек ад тых 9,5 тыс. чал, што было ў 2015 годзе. Гэта толькі 78,9% ад папярэдняга года з статыстычнай таблицы. Гэта самы нізкі паказчык сярод раёнаў вобласці, не кажучы пра гарады. Бліжэй да нас толькі Расонскі раён. Тут у «партызанскім краі» ад 4,3 тысячы занятых у эканоміцы засталося толькі 3,4 тыс. чалавек — 79,0%.

У іншых суседніх раёнах паказчыкі скарачэнне не такія высокія, як на Гарадоччыне. У Шумілінскім раёне — 82,1% ад 2015 году, Бешанковіцкім — 86,1%, Сенненскім — 81,0%. Толькі ў адным раёне адбыўся прырост актыўнага насельніцтва — Віцебскім раёне: з 17,6 тыс. стала 17,8 тыс. чал. — 101,1%. Пры гэтым у 2020 годзе быў максімум — 18,1 тыс. чал.

Менавіта сельская мясцовасць дала найбольшае скарачэнне насельнітва ў эканоміцы. На жаль і ў буйных гарадах таксама адбылся скарачэнне — Віцебску, Наваполацку, Оршы, Полацку. У цэлым па Віцебшчыны эканоміка за шэсць гадоў недалічылася больш 50 тысяч чалавек: з 524,8 тыс. зменшылася да 474,4 тыс. чал. — 90,4%. Гэта насельніцтва амаль двух Пастаў або чатырох Гарадкоў!

Вартаадзначыць, што і за восемь месяцаў 2022 года колькасць занятых у эканоміцы працягвала скарачацца. У нашым раёне стала менш на 165 чалавек, Шумілінскім — амаль на 200, Бешанковіцкім — на 276. Ды і ў Віцебскім раёне стала толькі 17 598 чалавек — менш чым у 2015 годзе. А па вобласці стала менш на 7 тысяч чалавек.

Такія сумныя лічбы пра дынаміку аб колькасці занятых у эканоміцы Віцебшчыны за апошнія шэсць гадоў...

**Лявон Гаравы**

АХОВА ПРЫРОДЫ

# ЗДАЛІ ТОЛЬКІ ШОСТУЮ ЧАСТКУ

**У Гарадоцкім і Шумілінскім раёнах аматары рыбалкі здалі толькі шостую частку канфіскаваных забароненых прылад рыбалоўства.**

Гарадоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету паведамляе, што за мінулы перыяд 2022 года супрацоўнікамі інспекцыі з абароту канфіскавана 259 рыбалоўных сетак, агульнай даўжынёй каля 11 км, у тым ліку 70 сетак агульнай даўжынёй каля 3,5 км грамадзянамі выдадзена добраахвотна, а таксама канфіскавана 162 іншых забароненых прылад рыбалоўства.

З гэтага вынікае, што ўсяго інспектары Гарадоцкай МІАЖ і РС канфіскавалі 421 прыладу, якія забаронены для рыбалоўства ў Беларусі. Дабраахвотна правапарушальнікі аддалі толькі шостую частку забароненых прылад 70 з 421 атрыманых інспектарамі. Адпаведна магчыма сказаць, што ўжо весь 2022 год кожны дзень – 351 раз інспектары афармлялі канфіскацыю забароненых прылад рыбалоўства.

Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь праводзіць маштабную кампанію па выняцці з абароту рыбалоўных сетак. Грамадзянам прапануецца добраахвотна здаць наяўныя ў іх рыбалоўныя сеткі, ці іншыя прылады здабычы рыбы з сеткавых матэрыялаў. Пры гэтым прыцягваць да адказнасці за захоўванне забароненых прылад лоўлі іх не будуць. Для ўзгаднення арганізацыі здачы сетак і сеткавых матэрыялаў звяртацца ў Гарадоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефоне 8 (0212) 481245

Адміністрацыйная адказнасць за незаконныя выраб, набыццё, збыт або захоўванне рыбалоўных сетак або іншых прылад здабычы рыбы з сеткавых матэрыялаў цягнуць за сабой накладанне штрафу ў памеры да 30 базавых велічынь, артыкул 16.26 КаАП Рэспублікі Беларусь.

**Л. Антонаў**

МОГІЛКІ

# ПАХАВАННЕ БЕЗ ПАМЯЦІ АДБЫЛОСЯ

**3 верасня месяца Гарадоцкае прадпрыемства кацельцяў і цеплавых сетак распачало пахаванне на новым участку на полі ў накірунку да Шчарбакоўскага возера. Калі другі ўчастак знаходзіцца ў межах Гарадка, то новы на тэрыторыі Вайханскага сельсавету.**



Пандэмія каранавірусу паскорыла запаўненне Іванаўскіх могілак у 2020-2022 гадах. Пра гэта мы пісалі сістэматычна, прыводзілі даныя Гарадоцкая санстанцыі па сітуацыі з COVID — 19 пакуль яны не зніклі з адкрытага доступу ў 2021 годзе. Пісалі мы і пра пахаванне самай першай ахвяры на Іванаўскіх могілках у красавіку 2020 года. Зараз на магіле ўсталяваны прыгожы помнік, а побач асвоены вольныя месцы. Праўда агароджу нядаўна тараніў пьяны кіроўца матаблока.

Кіраўніцтва Гарадоцкага прадпрыемства кацельцяў і цеплавых сетак яшчэ ў сярэдзіне 2021 года з адказнымі службамі райвыканкама вызначылі месца для новых пахаванняў, калі пандэмія не сціхала. Пакуль ніякіх шыльд, што гэта таксама Іванаўскія могілкі няма. Але для грамадзян ведама, што новы ўчастак могілак знаходзіцца ў лесе, калі перад бярэзнікам павярнуць управа. На гэтым новым месцы зараз новыя магілы з безымяннымі крыжамі.

Па нашай інфармацыі тут пахаваны дзве жанчыны, у якіх не знайшлося родзічаў, якія бы заняліся пахаваннем. Адна з жанчын пад 70 гадоў, кажуць мела кватэру ў Маскве, а жыла ў Гарадку. Кватэру пакінула сыну, але ён знаходзіцца цяпер у турме. На магілах няма традыцыйнай інфармацыі аб нябожчыках, як няма і вянкоў памяці. Падаецца, што было бы па-людску рабіць дзяржаве пахаванне па хрысціянскіх правілах, указваючы, хто пахаваны пад крыжом і прадстаўляючы адзін вянок.

Новае месца для пахаванне мае нахіл да сваіх межаў. У адрозненні ад старой часткі Іванаўскіх могілак тут пасля дажджу ствараюцца лужы.

Гэта ставіць пытанне пра якасць праекта новай часткі могілак. Калі з гадамі новыя магілы будуць з'яўляцца да паўднёвай і заходняй мяжы ўчастка, то магчыма давядзецца капаць магілу ў вадзе. Мо варта мець добрую сажалку ў самай нізкай частцы гэтай мясцовасці, каб быў туды сцёк вады? Тады ў грамадзян будзе менш непаразумення ад новага ўчастку.

**Лявон Гаравы**

ДАРОЖНЫ РУХ

# ПРАВЫ ВЫДУМАНЫЯ — АДКАЗНАСЦЬ РЭАЛЬНАЯ

**Колькі спраў аб кіраванні без правоў і як разгледзеў суд Гарадоцкага раёна ў гэтым годзе.**

…За 9 месяцаў бягучага года на разгляд у суд паступіла 15 адміністрацыйных матэрыялаў па факце выяўлення выпадкаў ваджэння без права кіравання. У мінулым годзе аналагічная колькасць спраў была разгледжана за год. У 2022 г. па рашэнні суда аштрафаваныя 10 «бяспраўнікаў» на агульную суму 9 тыс. 600 руб., да 5-ці грамадзян ужыты адміністрацыйны арышт.

- Калі пакаранне за кіраванне без правоў у рамках прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці не змяніла ход думак парушальніка, яго дзеянні ацэньваюцца па Крымінальным кодэксе, па арт. 317-2 якога трэці выпадак язды без правоў на працягу года можа прывесці да грамадскіх работ, штрафу, папраўчых работ на тэрмін да 6 месяцаў або арышту з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю або без пазбаўлення. Сеўшы за руль пасля прыцягнення да крымінальнай адказнасці, злачынец павінен быць гатовы да арышту, абмежавання волі да двух гадоў з пазбаўленнем права займання пэўнай пасады або пэўнай дзейнасцю, — патлумачыла Гурынава.

За мінулы перыяд 2022 г. у Гарадоцкім судзе разгледжаны тры крымінальныя справы за кіраванне без права кіравання, у мінулым годзе такіх фактаў выяўлена не было. Па прыгаворах суда адзін чалавек арыштаваны на тры месяцы, двое аштрафаваны на агульную суму 200 б. в. (6 тыс. 400 руб).

Асобна спынімся на працэсе, падчас якога быў разгледжаны факт кіравання транспартным сродкам без права кіравання ў стане алкагольнага ап'янення.

- У верасні мінулага года супрацоўнікі ДАІ затрымалі грамадзяніна 1972 г. н., які кіраваў ВАЗ-21150 у стане алкагольнага ап'янення і без правоў. Высветлілася, што каля двух гадоў таму ён набыў аўтамабіль у Расіі, вадзіцельскага пасведчання ніколі не меў. Быў складзены пратакол па ч.2 арт.18.15 КаАП — кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення або ў стане, выкліканым спажываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, а таксама адмова ад праходжання агляду. Мужчыну аштрафавалі на 200 б. в. (5800 руб. - Аўт.) з пазбаўленнем права кіравання транспартным сродкам на пяць гадоў. Такая мера пакарання абрана з прычыны таго, што парушальнік адмовіўся ад праходжання агляду.

Атрымаўшы заслужанае пакаранне, свае паводзіны "ліхач" не перагледзеў. Штраф не выплачваў, ад небяспечнай звычкі - садзіцца за руль п'яным і без правоў - як пазней высветлілася, не адмовіўся. І ў студзені гэтага года зноў быў затрыманы пры ўпраўленні за аналагічнае парушэнне. Прычым у аўто з ім знаходзілася дзіця. Сігнал праваахоўнікам паступіў ад мужчыны, з якім парушальнік, як мяркуецца, незадоўга да гэтага і выпіваў. Грамадзянін прайшоў медыцынскі агляд у шпіталі, які пацвердзіў факт ап'янення.

- Мужчыне было прад'яўлена абвінавачанне па ч.1 арт.317 заўв.1 Крымінальнага кодэкса - «Кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, здзейсненае на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага», - распавяла Ганна Дзмітрыеўна. - Пры вынясенні пакарання суд улічваў, што абвінавачаны раней быў неаднаразова судзімы за цяжкія злачынствы. У агульнай складанасці ён правёў у месцах пазбаўлення волі каля 20 гадоў. За дадзенае злачынства суд прыгаварыў яго да пазбаўлення волі тэрмінам на два гады, а таксама да пазбаўлення права кіравання транспартным сродкам на 5 гадоў. Асуджаны ўзяты пад варту ў зале суда. Да ўступлення прыгавору ў законную сілу грамадзянін падаў апеляцыю. Пасля разгляду матэрыялаў справы Віцебскі абласны суд пакінуў прысуд без змен.

*(скарочана)*

**Юлія Рудзякова**
**"Гарадоцкі веснік"**
**Пераклад рэдакцыі на родную мову**

ЗДАРЭННІ

# АХВЯРА НА ПАЖАРЫ

**У бальніцы памерла жанчына, якая абгарэла ў калгасным вагончыку ў Гарадоцкім раёне.**

Раніцай 29 верасня ў бальніцы памерла 54-гадовая вяскоўка, якая пацярпела падчас пажару ў КУСГП імя Свярдлова ў Гарадоцкім раёне.

Пажар адбыўся каля 0:55 каля вёскі Мехавое - загарэўся размешчаны ў полі драўляны вагончык пастуха. Жанчына, якая знаходзілася ў ім, атрымала апёкі на 90% плошчы цела і была шпіталізавана.

Праз восем гадзін, нягледзячы на намаганні медыкаў, вяскоў-ка памерла ў бальніцы ад атрыманых падчас пажару траўм, паведамляецца прэсслужбай МНС.

**Т. Гаражанка**

# ПАШКОДЖАНА НАСЕННЕ ТРАЎ

**У Гарадоцкім раёне пажарам ў сушылцы пашкоджана паўтоны насення траў.**

Ноччу 13 кастрычніка ў 1.43 стала вядома аб пажары ў будынку падлогавай збожжавай сушылкі ў аграгарадку Пальмінка. Паводле інфармацыі БЕЛТА ў выніку пажару пашкоджаны 0,5 т насення сумесі траў і 10 кв.м. драўлянай падлогі.

Работнікамі МНС выратавана 1 т насення сумесі траў.

Пацярпелых няма. Прычыны пажараў высвятляюцца.

**Т. Гаражанка**

АРХЕАЛОГІЯ

# ЎНІКАЛЬНЫЯ ЗНАХОДКІ

**У Гарадоцкім раёне студэнты ВДУ імя П.М. Машэрава выявілі ўнікальныя археалагічныя знаходкі. Пасланне ад старажытных скіфаў знойдзена ў Загорцах Межанскага сельсавета. Падобныя артэфакты ў нашай краіне знойдзены ўпершыню. Сенсацыя?**

Дацэнт кафедры гісторыі і культурнай спадчыны Віцебскага дзяржуніверсітэта імя П. М. Машэрава Тацццяна Бубенька з высновамі не спяшаецца, але прызнаецца: цяперашняя археалагічная практыка паднесла нямала сюрпрызаў. Знаходкі здольныя ні многа ні мала ўнесці карэктывы ў старажытную гісторыю.

Тацццяна Бубенька дэманструе тры пpаразныя трохкутныя падвескі з бронзы — яны ўказваюць на сувязь з культурнымі традыцыямі лесастэпавай скіфоіднай культуры VI–V стагоддзяў да нашай эры:

- Падвескі выкарыстоўваліся, хутчэй за ўсё, у якасці складовых частак у завушніцах. За сваю шматгадовую археалагічную практыку ўпершыню бачу нешта падобнае.

Падвескі, што называецца, «вышлі да людзей» падчас раскопак самага старажытнага паселішча Віцебскага Падзвіння — Загорцы на Гарадоччыне. На тэрыторыі Усходняй Еўропы пакуль улічана 12 падобных упрыгожванняў, асноўнае месца іх канцэнтрацыі - Курскае Пасейм'е. Тацццяна Станіславаўна старанна шукала аналогіі і давядалася аб унікальнасці падвесак, пракансультаваўшыся з расійскім калегам Яўгенам Сталяровым. Васьмёркападобная раменная бляшка таксама пакуль адзіная знаходка на тэрыторыі Беларусі. Не сустракаліся раней і звонападобныя даважкі. Бубенька выказала здагадку, адкуль у нас такія рэдкія бронзавыя рэчы:

- Хутчэй за ўсё, гэта сведчанне гандлёвых і культурных сувязяў з паўднёвымі плямёнамі і Паволжам. Сама магчымасць такіх кантактаў да гэтага часу не праглядалася. Так што нашым студэнтам выпаў гонар упісаць калі не новыя старонкі ў падручнікі гісторыі, то некалькі радкоў як мінімум.

Пасланнем ад старажытных скіфаў стаў трохлопасцевы касцяны наканечнік стралы. Спецыялісты датуюць яго VIII-VI стагоддзямі да нашай эры. Без пяці хвілін музейны экспанат адкапаў Максім Пятроў, другакурснік факультэта гуманітарыстыкі і моўных камунікацый ВДУ:

- Сказаць, што я задаволены, - нічога не сказаць. Першая археалагічная практыка - і адразу ў яблычак. Спачатку нават не зразумеў, што ў маіх руках сапраўдная рэдкасць.

Значнасць гэтых знаходак цяжка з нечым параўнаць. Усе рэчы ўнікальныя, дае экспертную адзнаку Тацццяна Станіславаўна:

- Яны - частка велізарнага археалагічнага пазла. Сабраўшы яго разам, можна праліць святло на тое, якія плямёны жылі на тутэйшых землях у раннім жалезным веку, на іх этнічную прыналежнасць. Расставіць кропкі над "і", даведаўшыся практычна дакладную дату ўзнікнення гарадзішча і селішча ў яго падножжа, дазволяць выніккі радыёвуглероднага аналізу.

Адной з галоўных вех ва ўласнай кар'еры Тацццяна Станіславаўна лічыць селішча ў Заронава. Адкрыўшы яго ў 2018 годзе, дацэнт кафедры гісторыі і культурнай спадчыны назаўжды пакінула след у археалогіі. Цікава, што заронаўскія матэрыялы паказваюць на з'яўленне тут праславян у канцы IV–V стагоддзяў, хаця паводле афіцыйнай версіі з падручнікаў рассяленне славян на поўначы Беларусі пачалося толькі ў IX стагоддзі.

**Ганна Навумава**
**СБ**
**Пераклад на родную мову рэдакцыі**

НОБЕЛЕЎСКАЯ ПРЭМІЯ

# НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ МІРУ АТРЫМАЎ НАШ ПРАВААБАРОНЦА

**Беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, які цяпер знаходзіцца за кратамі, атрымаў Нобелеўскую прэмію міру. Нобелеўскай прэміяй міру ў гэтым годзе ўганаравалі заснавальніка беларускага праваабарончага «Вясна» Алеся Бяляцкага, расійскі «Мемарыял» і ўкраінскі Цэнтр грамадзянскіх свабод.**




У 2021 годзе Нобелеўскі камітэт прысудзіў прэмію міру двум журналістам. Яе ўладальнікам стаў галоўны рэдактар расійскай «Новай газеты» Дзмітрый Муратаў і заснавальніца філіпінскага выдання Rappler Марыя Рэса за іх «намаганні па абароне свабоды слова і самавыяўлення, што з'яўляецца асноватворнай умовай для дэмакратыі і трывалага міру».

«Бяляцкі быў адным з ініцыятараў дэмакратычнага руху, які ўзнік у Беларусі ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Ён прысвяціўусёсваёжыццёсправе дэмакратыі і міру ў сваёй краіне. Бяляцкі ў 1996 годзе стварыў праваабарончую арганізацыю „Вясна", у адказ на сумнеўныя змены ў Канстытуцыю, якія далі беларускаму прэзідэнту дыктатарскія паўнамоцтвы», — заявіла прадстаўнік Нобелеўскага камітэта, прадстаўляючы лаўрэатаў.

**Як выбіраюць кандыдатаў на прэмію міру?**

Па правілах нарвежскага Нобелеўскага камітэта, на прэмію міру можа быць наміналаваны любы чалавек, але прапаноўваць кандыдатуры можа толькі абмежаванае кола асоб. Як тлумачыць кіраўнік нарвежскага камітэта Берыт Рэйс-Андэрсан, пры вылучэнні кандыдатаў ўлічваюцца тры крытэры, названыя ў тэстаменце Альфрэда Нобеля: уклад у скарачэнне колькасці ўзброеных сіл, садзейнічанне мірным перамовам і ўклад ва ўмацаванне брацкіх адносін паміж народамі.

Па словах рэйс-Андэрсан, за мінулыя 120 гадоў да паняццяў, пазначаных Нобелем, дадалося некалькі ўдакладненняў, такіх як міжнароднае супрацоўніцтва, уклад у справу міру не толькі асобных асоб, але і арганізацый, і абарона правоў чалавека.

**novychas.online**

РОДНАЯ МОВА

# НАВОШТА НАМ БЕЛАРУСКАЯ МОВА? ПРАГМАТЫЗМ І ПАТРЫЯТЫЗМ

**«А зачем нам этот белорусскій», — такія абураныя выказванні часам можна пачуць ад бацькоў школьнікаў, якія вымушаныя разам са сваімі дзецьмі вывучаць беларускія словы. Маўляў, і словы незразумелыя. І ўвогуле лепей ангельскую вучыць, чым беларускую. Дык навошта вывучаць беларускую мову? «Штодзень», які выходзіць у Гомелі, падрыхтаваў некалькі аргументаў на карысць вывучэння беларускай мовы.**




**1. Самаідэнтыфікацыя**

ІўХХІстагоддзінацыянальная мова працягвае заставацца галоўным складнікам ідэнтычнасці сучаснага чалавека. Паспрабуйце дзе-небудзь у Францыі, Італіі ці Грузіі патлумачыць мясцовым жыхарам, што іх нацыянальная мова не вартая вывучэння, паколькі ёсць больш «распаўсюджаная» ангельская.

**2. Бяспека**

Прадстаўнікі беларускіх дыяспар па ўсім свеце актыўна пераходзяць на беларускую мову, паколькі ўсвядомілі, што размаўляць па-расейску пасля пачатку вайны ва Украіне — мовэтон. Больш за тое, у некаторых выпадках беларуская мова ў публічнай камунікацыі ёсць гарантыяй, што вас не ўспрымуць як агрэсара.

Дарэчы, люксембургская мова, напрыклад, стала адраджацца ў перыяд акупацыі падчас ІІ Сусветнай вайны, калі мясцовыя жыхары не хацелі атаясамлівацца з акупантамі і таму размаўлялі на сваім дыялекце.

**3. Ключ да іншых моваў і культур**

Беларуская мова мае больш за 70% агульнай лексікі з украінскай мовай. Трошкі менш — з польскай, славацкай, чэшскай і іншымі славянскімі мовамі. Інакш кажучы, калі ўявіць шматнацыянальнае славянскае застолле, то беларусы маглі б смела гаварыць на сваёй мове без перакладчыка, пра што толькі могуць марыць носьбіты «вялікай і магутнай». Акрамя гэтага, беларускамоўным людзям працей вывучаць нямецкую і ангельскую мовы, паколькі вялікі пласт нашай мовы — гэта супольная з еўрапейскімі мовамі лексіка, якая трапіла да нас яшчэ ў часы Сярэднявечча. Словы «дах», «гандаль», «фарба», «разынкі» многія еўрапейцы зразумеюць без перакладчыка.

**4. Атрымліваць доступ да ўнікальнага кантэнту**

Носьбіты беларускай мовы, якія не баяцца карыстацца ёй штодня, атрымліваюць дасяг да неабмежаванага і ўнікальнага кантэнту, які пастаянна стварaецца тысячамі таленавітых аўтараў, літаратараў і журналістаў. Сярод беларускамоўных беларусаў — лаўрэаты прэстыжных сусветных і еўрапейскіх літаратурных прэмій, топавыя кінарэжысёры і выбітныя журналісты. Словам, калі чалавек свядома адмаўляецца ад беларускай мовы, то ён пазбаўляецца аграмаднага пласту інфармацыі, створанай беларусамі для беларусаў.

**5. Быць беларусам**

Ну, і, самае галоўнае, валоданне беларускай мовай дазваляе сябе адчуваць утульна ў супольнасці суайчыннікаў, дзе б вы не знаходзіліся. Беларуская мова — гэта такі своеасаблівы маркер, які вылучае нас на фоне іншых. Калі размаўляеш па-ангельску ці па-расейску, то ты можаш быць кім заўгодна (нараджэнцам Ганконгу ці расейскай Волагды), але менавіта беларуская прывязвае нас да канкрэтнай геаграфічнай і ментальнай прасторы, якая называецца Беларусь.

І ўвогуле, калі ўжо гаварыць пра перамены ў школьнай адукацыі, то паўстае пытанне, навошта ўвогуле вывучаць расейскую мову, якая імкліва страчвае пазіцыі ва ўсім свеце і пры нашым жыцці мае ўсе шансыператварыцца ў аналаг сучаснай «латыні».

**«Штодзень»**

ФІНАНСЫ

# БЕЛАРУСЬ — СУСВЕТНАМУ БАНКУ: «МЫ ПРОСТА НЕ ХОЧАМ ПЛАЦІЦЬ. І НЕ БУДЗЕМ»

**Прыйшла яшчэ адна бяда, адкуль не чакалі. А можа і чакалі? І калі нехта спрачаўся, ці настаў у Беларусі дэфолт, ці гэта «тэхнічны дэфолт», ці «абмежаваны дэфолт», то цяпер гэтыя спрэчкі, бадай, знятыя. Аказалася, што краіна ўжо шэсць месяцаў не сплачвае па крэдытах Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця.**

Сёння з'явілася інфармацыя ад Сусветнага банка, які паведаміў, што Беларусь пратэрмінавала плацяжы па крэдытах, выдадзеных Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця. Для ўсіх пазык усталяваны статус непрацуючых.

«Гэта дзеянне было зроблена ў адпаведнасці з усталяванай працэдурай Сусветнага банка, згодна з якой усе крэдыты МБРР, прадастаўленыя краіне або гарантаваныя краінай, становяцца непрацуючымі, калі плацеж па любым крэдыце пратэрмінаваны больш чым на шэсць месяцаў», тлумачыць Сусветны банк.

Па факце гэта азначае, што паўгода ад нас чакалі, што Сінявокая расплаціцца па тых крэдытах, якія ёй выдалі праз МБРР. Аднак за паўгода нашы ўлады так і не здолелі заплаціць што-небудзь.

У паведамленні кажацца, што на 14 кастрычніка пратэрмінаваныя плацяжы Беларусі склалі 68,43 млн долараў у эквіваленце. Такім чынам, высвятляецца, што плацеж па крэдытах МБРР мы павінны былі зрабіць у траўні гэтага года. Аднак менавіта ў траўні — на пачатку чэрвеня пайшлі размовы пра дэфолты ў Расіі і Беларусі. 2 траўня рэйтынгавае агенцтва «Fitch» адзначыла, што эканоміка Беларусі ў перадддэфолтным стане, і папярэдзіла, што будзе разглядаць спробы пагасіць даўгавыя абавязацельствы ў беларускіх рублях як дэфолт.

Што і адбылося ў чэрвені.

Аднак, як высвятляецца, «неплацяжы» пачаліся некалькі раней, чым нам было вядома. Паўгода назад ад 14 кастрычніка — гэта 14 траўня.

Агульная сума крэдытаў, выдадзеных Беларусі Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця і яшчэ не пагашаных ёю, складае 967 млн долараў.

**Гарантаваны дэфолт**

З выплатай па еўрабондах сітуацыя была крыху іншай. Беларускі Мінфін тады заявіў, што частка трымальнікаў нашых аблігацый з «сяброўскіх» краін не здолела атрымаць грошы ад Беларусі з-за фінансавых санкцый, уведзеных ці тое ў дачыненні да беларускіх банкаў, ці тое ў дачыненні да нашых «сяброў — трымальнікаў еўрабондаў». Маўляў, Беларусь плаціць не адмаўляецца, але грошы па еўраабліґацыях не могуць трапіць да тых, каму яны належаць. І таму была прыдумана схема аплаты ў беларускіх рублях праз «Беларусбанк»: маўляў, хто хоча — хай прыйдзе і забярэ беларускія рублі, а потым хоць беларускія трактары купляе, хоць на валюту мяняе.

«Адмазка» была даволі нягеглай, лічыць старшы навуковы супрацоўнік даследчага цэнтра «BEROC» , эканаміст Леў Львоўскі. «Той дэфолт быў абмежаваны, Беларусь абвясціла дэфолт не па ўсіх абавязацельствах, а па некаторых. Цяпер можна меркаваць, што па ўсіх знешніх абавязацельствах , якія не расійскія, не кітайскія і не Еўразійскага банка, мы чакаем дэфолт. Тое, што нашы міністэрствы кажуць,

***(працяг на стар. №4)***

ФІНАНСЫ

*(пачатак на стар. №3)*

нібыта яны не могуць плаціць з-за абмежаванняў міжнародных сістэм — гэта хлусня. Яны могуць плаціць. На тлумачэнне, якое яны прыдумалі, ніхто не купіўся, бо пры афармленні еўрабондаў было дакладна прапісана, у якой валюце і ў якія тэрміны трэба ўсё плаціць», — кажа ён.

Але цяпер — у дачыненні да Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця — гэта схема са «злымі плацежнымі сістэмамі, якія не аддаюць нашы грошы з-за санкцый», не працуе зусім. «Я ўпэўнены, што ніякіх абмежаванняў для Беларусі няма, і яна можа плаціць. Але не хоча», — дадаў Львоўскі.

Прычына, па якой Беларусь не плаціць па крэдытах, на яго погляд — гэта чарговая «дымавая завеса» ад урада, каб схаваць сваё гаротнае фінансавае становішча.

«Цяпер размова ідзе пра невялікія грошы, што дазваляе шмат якім аналітыкам казаць пра "частковы дэфолт". Нібыта Беларусь магла б заплаціць, але не плаціць, таму што прыдумала такую гісторыю. Насамрэч даволі хутка Беларусі трэба будзе плаціць па еўрабондах значную суму — каля 800 мільёнаў долараў. Гэта ўжо сур'ёзныя грошы, і верагодна, беларускія ўлады хочуць «замыліць» сутнасны дэфолт — менавіта той факт, што Беларусь не можа гэтыя грошы плаціць. І тады яны могуць сказаць: "Мы даўно ўжо не плацім, але гэта не азначае, што мы ўжо незаможныя, а проста не будзем плаціць". Насамрэч 800 мільёнаў Беларусі аддаць проста цяжка», — адзначае Леў Львоўскі.

**Кітайцы — таксама людзі**

Канешне, калі ў Беларусі здарыўся дэфолт па еўрабондах, многія беларускія (і не толькі) эканамісты адзначалі, што ўсё кепскае, што у краіне магло адбыцца ў сувязі з тым дэфолтам, ужо здарылася раней з-за санкцый: вывад бізнесаў, зніжэнне дзелавой актыўнасці, перакрыццё заходняй фінансавай дапамогі і гэтак далей. Таму той «абмежаваны дэфолт» асаблівага ўплыву на сітуацыю не меў.

«Сто гадоў такога не было, і вось зноў». Расія ўсё ж прыйшла да дэфолту па знешніх пазыках упершыню за 104 гады. 27 чэрвеня скончыўся льготны перыяд, напрацягу якога Расія павінна была выплаціць крэдыторам працэнты па еўрабондах у памеры 100 мільёнаў долараў ЗША. Аплата да атрымальнікаў не дайшла.

Аднак цяпер — сітуацыя прынцыпова іншая. Менавіта таму, што тут цяжка «адбаярыцца» заходнімі фінансавымі санкцыямі.

Беларускія ўрадаўцы ўвесь час казалі, што плануюць замясціць еўрапейскія крэдытныя лініі, напрыклад, кітайскімі. Маўляў, калі Еўропа грошай не дае, дык на ёй свет клінам не сышоўся. Аднак пасля навіны ад Сусветнага банка, імаверна, паўстануць праблемы і з кітайскімі крэдытамі. Бо калі Беларусь можа плаціць, але не хоча, ці не здарыцца тая ж самая сітуацыя і з кітайскімі банкамі?

Дарэчы, 6 верасня першы віцэ-прэм'ер Мікалай Снапкоў ужо сказаў, што Беларусь будзе разлічвацца за кітайскія доларавыя крэдыты ў юанях. Дзякуй богу, пакуль не ў беларускіх рублях, але сама змена валюты выглядае ўжо пададзронай, ці не так?

Некалі эканаміст Леў Марголін параўноўваў грошы ў эканоміцы з палівам у аўтамабілі: калі не будзе паліва, аўтамабіль не паедзе. Відавочна, што з гэтым «палівам» у нас будзе ўсё больш і больш праблем. І застанецца толькі спадзявацца на «палітычна абумоўленыя» крэдыты Расіі. А чым яна іх абумоўлівае, памойму, тлумачыць не трэба…

**Таццяна Лісічэнка**
**novychas.online**

МЕРКАВАННЕ

# ЕДИНСТВЕННЫЙ СПОСОБ СПАСТИ БЕЛАРУСЬ — БЫСТРЕЕ ЗАКОНЧИТЬ ВОЙНУ ПОБЕДОЙ УКРАИНЫ

**Экономист Ярослав Романчук в интервью Филину — о том, повлияют ли на Лукашенко угрозы новых санкций ЕС.**

*— Официальный представитель ЕС по внешнеполитическим вопросам Петер Стано заявил, что любые активные действия по вовлечению режима Лукашенко в агрессию России против Украины будут встречены новыми и суровыми санкциями. Подобная реакция на вчерашние заявления белорусского правителя последовала от главы МИД Франции Катрин Колонны.*

*Как думаете, предупреждения со стороны высокопоставленных европейских чиновников повлияют на Лукашенко?*

— Честно говоря, плевать хотел Лукашенко на эти предупреждения — на пятый, десятый, двадцать девятый пакет санкций. Да, ему становится хуже. Но мы видим, как он себя ведет. Он сосет деньги из российского бюджета, российского госзаказа. Он заявляет, что в октябре на 30 процентов увеличивается переработка нефти, логистические цепочки наладили.

Самое опасное в этом всем — вместо того, чтобы отодвинуть белорусский режим, Беларусь от агрессора России, его, наоборот, подталкивают в эти объятия. Главное последствие — количество коммерческих, финансовых, институциональных слияний и поглощений в данной ситуации с российскими ОПГ — кремлевскими, государственными и другими структурами — беспрецедентно высокое.

Поэтому для того, чтобы обезопасить белорусский народ, который против войны, также помочь выразить реальную солидарность и поддержку украинскому народу, нужно заниматься санкциями — это одно, но главное — это дать оружие.

Единственный, самый действенный способ сегодня, который может сделать Европейский союз и задействовать всю систему безопасности, в том числе, НАТО — это дать как можно больше как можно быстрее оружие воюющей украинской армии, чтобы она перешла в контрнаступление….

В опросах 75 процентов населения выступает за то, чтобы оказать всяческую помощь Украине, включая военную, а политики, которые на своей волне со своими тараканами в голове, они этого не понимают, не делают. Начинают грозить: ай-яй-яй, мы закрутим гайки, примем санкции. Ну так принимайте адекватные меры. Вот это самая большая несуразность, на мой взгляд, которая в сегодняшнем мире есть. Сколько ж можно грозить?...

Нам же нужно не затягивать конфликт на годы. Ну да, через два года действительно будет жесткое обнуление, детехнологизация экономики, будут разорваны связи, будет приближение Беларуси и России к стандартам Северной Кореи.

Но это будет через два-три года, а сколько за это время людей погибнет! Единственный способ спасти Беларусь — это как можно быстрее закончить войну победой Украины и тогда уже вместе решать вопрос лукашенковского режима.

*(скарочана)*

**Яна Соколова**
**gazetaby.info**

ГЕАПАЛІТЫЧНЫ ГУМАР

# МАРУ ЛУКАШЭНКІ ПЕРАХОПЛІВАЮЦЬ ЧЭХІ

**На патаемную мару Лукашэнкі аб Калінінградзе і аднайменнай вобласці самым нечаканым чынам замахнуліся чэхі. Прычым браты-славяне падышлі да пытання куды больш дасціпна і творча.**




У адказ на анексію РФ чатырох украінскіх абласцей, якая прайшла пад прыкрыццём фарсавага «рэферэндуму», хтосьці ў Чэхіі пажартаваў, што на такой падставе можна вярнуць у склад Чэхіі Калінінград (былы нямецкі Кёнігсберг) і аднайменную вобласць Расіі. Маўляў, горад быў заснаваны ў 1255 годзе па ініцыятыве караля Чэхіі Пржэмысла Атакара II, які ўзначальваў крыжовы паход супраць балтыйскіх язычнікаў, піша Мікалай Грабовіч у «Белнавінах».

А таму Кралавец, як яго называюць чэхі, і Кралавецкі край маюць не менш правоў змяніць юрысдыкцыю, чым акупаваныя ўкраінскія землі. Галоўнае — правесці рэферэндум, у выніках якога ніхто не сумняваецца.

Удалы жарт быў падхоплены і перарос у нацыянальны флэшмоб. З'явіліся сайт і твітар Кралаўца, дасціпна абыграна тэма выхаду Чэхіі да мора і стварэння чэшскіх ВМС, чэшскія гісторыкі «знайшлі доказы», а півавары «запусцілі» будаўніцтва піваправода «Пльзень-Кралавец». Чэхі паказалі ўсю абсурднасць пуцінскіх анексій, а жартоўная форма толькі спрыяла пераканаўчасці.

На гэтым тыдні акцыя выйшла з віртуальнай прасторы ў рэальную. Некалькі сотняў актывістаў руху «Make Kralovec Czech Again!» сабраліся ля амбасады Расіі ў Празе з патрабаваннем неадкладна абвясціць у Калінінградскай вобласці рэферэндум аб уваходжанні ў склад Чэхіі.

«Сама Расія паказала астатняму свету, што анексія чужых зямель з наступным правядзеннем рэферэндумаў — гэта нармальна і законна. Так што прыйшоў час Кралаўцу вярнуцца ва ўлонне матухны-Багеміі, вярнуцца дадому, у родную гавань», — заявілі ўдзельнікі акцыі…

Нагадаем, што па выніках Другой сусветнай вайны Кенігсберг са складу Германіі перайшоў у СССР, дзе стаў Калінінградам. А прылеглая да яго частка Усходняй Прусіі стала Калінінградскай вобласцю Расіі. Аднак, развязаўшы супраць Украіны агрэсіўную захопніцкую вайну, Расія сама рызыкуе апынуцца ў сітуацыі, калі яе тэрытарыяльная цэласнасць акажацца пад пытаннем. І Калінінградскі анклаў у гэтым сэнсе — адзін з найбольш перспектыўных рэгіёнаў…

**Наш Каралявец. Як Калінінград быў надбалтыйскай сталіцай Прынямоння і што з ім здарылася**

Які горад гродзенцаў з'яўляецца цяпер «вакном» у Еўропу? Варшава, скуль можна паляцець самалётам па ўсім свеце, магчыма, для кагосці Вільня. Але так стала толькі ў XX ст. Да таго больш чым паўтысячагоддзя Еўропа для Прынёмання пачыналася з Кёнігсберга, які нашыя продкі называлі Каралявец.

У Лукашэнкі маецца даўняя цікавасць да Калінінграда і расійскага анклава на Балтыцы. Яшчэ 9 гадоў таму ён прапаноўваў расійскаму калегу Пуціну аддаць Беларусі Калінінградскую вобласць.

«Я часта кажу, — заявіў тады Лукашэнка, — аддайце нам Калінінградскую вобласць. Мы кожны гектар, кожную сотку зямлі там узарам і зробім з яе квітнеючы край... Я лічу, што гэта наша зямля, у добрым сэнсе гэтага слова. Я не прэтэндую на тое, каб заўтра забраць Калінінград, але калі можна было б — то з задавальненнем».

Тры гады таму Лукашэнка назваў рэгіён «нашай вобласцю». Па яго словах, яшчэ падчас СССР абмяркоўвалася пытанне аб далучэнні Калінінградскай вобласці да Беларусі.

Відавочна, Беларусь, якая не мае выхаду да мора, была б зацікаўлена ва ўзмацненні свайго ўплыву ў найбліжэйшым да яе рэгіёне на беразе Балтыкі. І сітуацыя, калі расійская армія церпіць паражэнні, а будучыня РФ усё больш цьмяная, нібыта гэтаму спрыяе. Іншая справа, што Лукашэнка цяпер таксама далёка не ў лепшай форме, каб брацца за рэалізацыю сваёй геастратэгічнай мары.

А чэшскі геапалітычны гумар — добры прыклад таго, наколькі ілюзорнай можа быць афіцыёзная прапаганда і як часам карысна паглядзець на пытанне нестандартна. Вельмі добры для абвешчанага ў Беларусі года гістарычнай памяці ўрок.

*(скарочана)*

**novychas.online**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.10.2022 у 15.25** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.